# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня. Віленская вул. 33. Рэдакцыя адчыняна: 10—2 штодня апрача сьвяточных дзён. | Цана кожнага нумэру 5 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 50 м. (з дастаукай да хаты). Цана абвестак: 5 м. за радок пэтыту (на апошняй стр.). |
|---|---|

**Год І. Вільня. Нядзеля, 3 красавіка 1921 г. № 2.**



## НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ.

25 сакавіка 1918 г. — 25 сакавіка 1921 г.

Цудоўная вясна была тры гады таму назад. Першы раз дачакалася цэнтральная Беларусь, што з яе абшараў зьляцелі ланцугі маскоўскага панаваньня і, хоць трапіла яна адразу-ж у новые путы, ды былі гэта путы толькі на целе яе... Дух-жа застаўся вольны. І пасьля вякоў заняпаду пачала ўваскрасаць Беларусь. А ў месяц па выйсьцю з Менску апошняга маскоўскага салдата пачуўся Беларускі Народ ужо гэтак моцным, што парваў апошніе путы сваей даўнейшай дзяржаўнай залежнасьці. У скромнай залі, дзе зьбіралася Рада Рэспублікі, празьвінелі тады прарочые словы: адгэтуль Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржаваю. Празьвінела і даляцела да масаў народных і грымотам веснавога адраджэньня пракацілася праз усю Беларусь.

Незалежнай і вольнай... А ці знаем мы веліч гэных двох слоў, ці бачым іх хараство, ці ведаем цану, якую яшчэ трэба заплаціць за іх? О, шмат хто яшчэ гэтага ня ведае і ня бачыць!

А мінула ўжо тры гады. І трэйцяя вясна ідзеназьмену тэй. І бачаць людзі, што ня збыліся дагэтуль прарочые словы, бачаць зямлю сваю пад чужым панаваньнем, а брата свайго — парабкам на ўласным загоне. І пачынае іх браць сумляваньне: а ці не зарана сьнег зыйшоў, ці не надарэмна празьвінелі тады словы вольнасьці. Бо здавалося ім, што годзі сказаць слова—і станецца незалежнасьць; і дзеля таго стараюцца яны і цяпер яшчэ дапамагаць яе здзейсьненьню толькі рэзалюцыямі ды пратэстамі. Але ня гэтак здабываецца незалежнасьць.

Незалежнасьць—гэта ня фраза, не праграмны параграф, не якісь Вільсонаўскі пункт. Незалежнасьць — гэта найвышэйшая мэта, да якой ідуць народы, той кумір, якому ў ахвяру аддаюць яны сваіх лепшых сыноў. Незалежнасьць—гэта, рэзультат напружанай працы пакаленьняў. Тые народы, што былі страцілі яе, а цяпер ізноў здабылі, — яны ведаюць ёй цану. А мы яшчэ ня ведаем.

Але мы мусім гэта ведаць, каб разлажыць сваю працу і ня кідацца ад вялікай надзеі да безнадзейнасьці. Мусім быць прыгатаванымі да тае вялікае і сьвятое працы, якая на нас чакае. Мусім здабываць незалежнасьць, будуючы школы, арганізацыі, друкуючы кнігі, зьбіраючы і павялічуючы культурнае багацьце і духоўные сілы нашага народу. Мусім быць прыгатаванымі і да тэй цярністай дарогі, на якой не адзін з нашых братоў упадзе, заліваючыся ўласнаю крывёю, не адзін прыхарошыцца вянцом мучаніцкім: гэта ёсьць дарога да незалежнасьці. Мусім урэшце быць прыгатаванымі і да ўсякіх окупацый, разьдзелаў нашае Бацькаўшчыны, страшнога нацыянальнага прыціску, каб магчы і пры гэтых — можа найцяжэйшых—варунках будаваць далей гмах незалежнасьці. Мусім разумець, што не славамі, але жывою арганічнаю работаю пры ўсякіх варунках—ствараецца незалежнасьць, гадуюцца творчые сілы народу.

Калі нашае грамадзянства да ўсяго гэтага будзе прыгатавана, калі яно зразумее, якіе ахвяры ад яго вымагаюцца і захоча іх даць, тады яно будзе варта незалежнасьці. Тады сьціхнуць у ім галасы нараканьня, сумлеваньня. І тые, што сумляваліся і наракалі, скажуць: у цёмнай ночы па хвіліну запалілося сьвятло і пагасло. Але яно асьвяціло дарогу нам і мы ўжо ведаем, куды йсьці. Яшчэ мо' і няскора дойдзем мы да нашае мэты і трудна ісьці нам вобмацкам у па-

цёмках. Але мы ведаем належны кірунак. Справа незалежнасьці Беларусі ёсьць цяпер толькі справаю часу. Няхай-жа будзе багаславены той момэнт, калі запаліліся нам тое сьвятло, калі пранесьліся тые словы аб вольнасьці, што дагэтуль ня зьдзей сьніліся.

Няхай жыве вольная і незалежная Беларусь!

**Л. Б.**

# Мэморыял да Ураду Польскай Рэспублікі ад Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

У часе пачатку перагавораў аб замірэньні між Польшчай і Расеяй, прадстаўнікі Беларускай Найвышэйшай Рады падалі Польскаму Ураду мэморыял, каторы тут друкуем упоўнасьці, як цікавы гістарычны дакумэнт, які асьвятляе палітыку Найвышэйшай Рады і адносіны яе да справы незалежнасьці Беларусі:

„Поў тысячы з гакам гадоў гісторыі злучае беларускі народ з брацкім народам польскім. Поплеч змагаліся мы на палёх Грунвальду, разьбіваючы крыжацкую моц, удачна ўстрымоўвалі маскоўскі наезд пад Смаленскам, Оршай і ў шмат іншых мясцох, гдзе мы супольна пераліваліі кроў згодна з пазьнейшым, але ўзапраўды вечным, клічам „за нашу і вашу волю“. Залаты век Польшчы быў і залатым векам Беларусі, векам асьветы, гуманізму і толеранцыі.

Нажаль чарговы пэрыод прыносіць з сабой панаваньне цемры і самаволі, а разам з гэтым рэлігійную і нацыянальную нятолеранцыю, гвалт і хатнюю вайну.

У паводцы гэтай калатні гібее вялізная будоўля фэдэрацыйнай Рэспублікі.

Беларускі народ, які з гэтай барацьбы і разрухі выйшаў аслабеўшы, страціў сваю інтэлігэнцыю і папаў пад панаваньне царскай Расеі, якая не прызнавала яму ніякіх правоў да жыцьця. Народ, ня маючы сваіх прыродных павадыроў, па цэлы век засыпае з боку нацыянальнага і дзяржаўнага.

Аднак гэты народ ува ўсей чыстасьці захоўвае сваю нацыянальнасьць.

Гэткае палажэньне магло існаваць толькі дагэтуль, пакуль шырокіе масы не пачалі дамагацца сваіх правоў, пакуль гэтые масы не атрымалі голасу ў сучасных грамадзянствах. Справа дэмократызму сталася для Беларусі справай нацыянальнай і наадварот.

Гэткім чынам одгукі рэвалюцыі 1848 году будзяць жывы нацыянальны рух, а рэвалюцыя 1905 году прыносіць зусім ясна сказаные клічы нацыянальнага і дзяржаўнага адраджэньня беларусаў. Беларуская Сацыялістычная Грамада адразу ставіць у сваёй палітычнай праграме адбудаваньне незалежнай дзяржавы ў межах б. Вялікага Князьства Літоўскага, гдзе-бы ўсе народы, якіе жывуць у гэтай дзяржаве, знайшлі для свайго нацыянальнага разьвіцьця найлепейшые варункі. Але ня было тады суджэна прыступіць да зьдзейсьненьня гэтых вялікіх мэтаў. Царскі ўрад здушыў і затапіў рэвалюцыю ў моры крыві.

Францішк Аляхновіч.

# НЯСКОНЧАНАЯ ДРАМА

пьеса ў 4-х актах.

АСОБЫ.

Васіль.
Ядзька, яго жонка.
Костусь, яго прыяцель.
Паўліна, прыяцелька Ядзькі.
Багдзевіч.
Дамаўласьнік.
Сторож.
Старажыха.

Рэч дзеецца ў Вільні ў часы нямецкай окупацыі (Гл. № 1).

СТАРАЖЫХА. Мне, панок, трэба за фатыгу... Я-ж памыла вокны, напаліла ў печы, начысьціла ўсё як сьлед, а мой таксама замарыўся— цягаў на гэтакую вышыню вашы рэчы...

ВАСІЛЬ. Ну, ведама, ну, ведама... Добра, добра, цётка... Зайдзеце заўтра... але! заўтра раніцай... не! лепш заўтра пад вечар... я вам усё заплачу, крыўды ніякае ня будзе... Заўтра, значыцца, добра, цётка?

СТАРАЖЫХА. Ну, добра... (д. с.) Цётка ды цётка, заўтра ды заўтра... Усё гэта нейк не па людзку... (выходзіць).

**Зьява 9.**

ТЫЕ-Ж без СТАРАЖЫХІ.

ВАСІЛЬ (разьвязвае вузел і сьцеле пасьцель). Ну, вось, ты хацела, каб хутчэй забраць цябе з бальніцы... Ну вось ужо і ўва ўласнай хаце... Баюся толькі, ці не зарана ты выпісалася з бальніцы. Яшчэ ты не зусім здаровая, а тут і дагляду такога ня будзе, як там..!

ЯДЗЬКА. Усё роўна, каб толькі ўва ўласнай хаце... Там — у бальніцы голадам морраць... Усё толькі чорны хлеб ды капуста... Ды апрача таго баюся я гэтага немца доктара... Яму—каб толькі рэзаць!.. Казаў, што яшчэ будзе рабіць апэрацыю... А я баюся... я не хачу!.. Ен мяне зарэжа!..

ВАСІЛЬ. Ну, вось табе! „Зарэжа!“ Доктар не зарэжа. Ен ведае, што трэба...

ЯДЗЬКА. Добра табе казаць, а каб ты быў на маім месцы, дык інакш загаварыў-бы... Чакай, ня так ты гэта робіш, няўмела... Патрымай дзіця, я сама пасьцелю пасьцель... (дае яму дзіця, а сама цяжка ўстае і сьцеліць пасьцель).

ВАСІЛЬ. Вось толькі дрэнная справа: грошай зусім няма. Як ты ляжала ў бальніцы, я ат-

Аднак-жа збуджаны нацыянальны дух не перастаў церабіць шлях для творчай працы і лепшай будучыні. Каб быць народам, трэба утварыць культуру і ўсіх разбудзіць. Паўстае новая літэратура, беларускае пісьменства прыпамінае сабе сваю вялікую каліць традыцыю, калі яно было падставай культуры ўсей Літвы; усьведамленьне пранікае ўжо над саламяные стрэхі вёсак і мястэчкаў. Пасьля дзевяцёх, дзесяцёх гадоў творчай працы Беларусь чакае з трывогай і біцьцём сэрца новага заўтраўшняга дня, мо' вызваленьня...

Пачалася сусьветная вайна. Прынесла яна з сабою руіну ўсяго і ўсялякіе няшчасьці ды вельмі слабую надзею вызваленьня і лепшай будучыні.

Адным з узапраўды вялізных клічаў, кінутых дэмакрацыяй у часе эўрапэйскай вайны, бязумоўна ёсьць кліч аб самавызначэньні народаў у справе іхняга лёсу, і гэта сьведчыць аб пераконаньні, што дагэтуль сьвет не зроўнаважыцца, пакуль кожны здольны да жыцьця народ не атрымае поўную меру прыналежных яму паспраўдлівасьці правоў, каб разьвіваць усе свае сілы і здольнасьці.

Беларускі народ, які разам з іншымі скінуў з сябе ярмо царскай няволі, зусім ясна і выразна паказаў сваю нязьменную волю да самастойнай дзяржаўнасьці.

Рэвалюцыя 1917 году дазволіла выявіцца беларускаму палітычнаму руху, які даказаў, што ў Беларусі ёсьць дзяржаўна-творчые элемэнты, каторые народ слухае і верыць ім. Пасьля таго, як было склікана шмат вайсковых і грамадзянскіх зьездаў, каторые адбываліся ў Менску ў часы Керэнскага у канцы сьнежня 1917 г., быў склікан там Усебеларускі Конгрэс. Прыехалі дэлегаты ад валасьцяў, ад павятовых і губэрньскіх земстваў, ад гарадоў, кооператываў, работніцкіх прафэсыянальных саюзаў, ад вайсковых беларускіх выканаўчых камітэтаў з усіх фронтаў, прадстаўнікі ўсіх грамадзянскіх арганізацыяў і палітычных партыяў Беларусі. На Конгрэсе былі прадстаўнікі губ. Менскай, Магілёўскай, Віцебскай, беларускай часткі Смаленшчыны і Чарнігаўшчыны, а таксама волных яшчэ тады ад нямецкай окупацыі усходніх паветаў Віленскай губ. і, як прадстаўнікі ад заходняй Віленшчыны і Горадзеншчыны, дэлегаты ад прагнанутых з родных хат праз адступаючае расейскае войска выхадцаў гэтай старонкі. Усяго сабралося каля 2.000 дэлегатаў, якіе мелі паўнамоччы рашыць лёс усяе Беларусі. Яны цьвёрда рашылі, што адгэтуль Беларусь павінна быць асобнай дзяржавай як Беларуская Народная Рэспубліка. Свае паўнамоччапаўнамоччы ўсяго Народу—яны аж да часу скліканьня Беларускага Устаноўчага Сходу перадалі Выканаўчай Радзе Конгрэсу, каторая пасьля, папоўніўшыся прадстаўнікамі ад нацыянальных меншасьцяў, значыцца, ад палякоў, жыдоў і інш., назвалася Радай Рэспублікі, аддаючы выканаўчую ўладу Радзе Народных Міністраў.

Калі Берасьцейскі дагавор аддаў Віленшчыну і Горадзеншчыну будаванай праз немцаў Літве, а 10 палудзённых паветаў губ. Горадзенскай, Менскай, Магілёўскай і Чарнігаўскай—Украіне, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, ня гледзячы на варожые да сябе адносіны окупацыйнай нямецкай улады ў Менску, на паседжаньні ў начы з 24 на 25 сакавіка 1918 г. выступіла з рашучым пратэстам процiў гвалту над выразна высказанай воляй Беларускага Народу, учыняным супольнымі сіламі Расеі і Нямеччыны. Словы пратэсту, які высказаў

---

рымаў за корэктуру за два месяцы наперад. Цяпер сам ня ведаю, скуль дастаць. У Костуся я пазычаў, пазычаў без ніякае меры, покуль грошы у яго былі, а цяпер і ён ужо нічога ня мае. Страшэнна нялоўкае палажэньне! Еп, як толькі мае грошы, сам набіваецца, каб браць у яго, а я—што-ж рабіць—бяру...

ЯДЗЬКА. Ен-жа наш кватэрант. Тое, што ты у яго ўзяў, можна-ж парахаваць, як плату за кватэру.

ВАСІЛЬ. Плату за кватэру! Ха-ха-ха! Калі-б так рахаваць, дык ён заплаціў ужо нам за колькі год наперад.

ЯДЗЬКА (спалохаўшыся). Няўжож мы гэтак многа ад яго ўзялі?

ВАСІЛЬ. Я лік ужо страціў.

ЯДЗЬКА. О, Божа мой! Божа мой!

ВАСІЛЬ. У нас, бач, нейкіе асаблівые адносіны. Нас зьвязвае дружба з малку дзён — успамін дзіцячых гадоў—гэта многа значыць. Цяпер ужо чалавек больш крытычна адносіцца да людзей, ставіць людзём вялікшые вымогі, ужо цяпер трудна завязаць гэтакую дружбу. А тады — дзеці—мы разам гулялі, разам вучыліся,—і вось душы нашы зьвязаліся між сабой на нейкі крэпкі вузел, які ніколі хіба ўжо ані разьвяжацца, ні разарвецца. Мы адзін перад адным ніякіх тайнаў ня маем—ён наперад згадвае кожную маю думку, кожнае маё жаданьне, як я ягонае. І цяпер, хаця жыцьцё душу кожнага з нас выкавала на іншы лад, хаця мы шмат адзін ад аднаго рожнімся і шмат у чым не згаджаемся, — гэты невідавочны вузел з дзіцячых гадоў зьвязвае нас ня з меншай сілай, чымсь калісь. І вось адтуль у нас гэтакіе адносіны.

ЯДЗЬКА. Усё-ж такі грошы ад яго браць не выпадае.

ВАСІЛЬ. Дык-жаж і я тое самае кажу, але.. нічога не парадзіш... Ну, ты кладзіся ўжо. Чаму-ж ты не распранаешся?

ЯДЗЬКА. Тут сьцюдзёна. Я паляжу гэтак у вопратцы. Дай мне сюды дзіця (*бярэ дзіця*). Ен ужо ўмее сьмеяцца... во, глянь, як да мяне сьмяецца... (*да дзіцяці*). Што? цешысься, што ізноў вярнуўся да мамы,—эх, ты, малюсенькі мой!.. Вось ляжам тут (*кладзецца*), тут у хаце покуль што холадна, але напалім у печы, будзе цёпла, добра, весела, будзем жыць у ва ўласнай хаце, а не ў гэтай праклятай нямецкай бальніцы... (*да Васіля*). Во, глянь, Васілёк! як ён сьмяецца! ён ужо разумее, што я яму кажу.

ВАСІЛЬ. Ну, куды там! (*выймае гадзіньнік і махае ім перад носам дзіцяці*).

ЯДЗЬКА. Далібог, разумее. Ен цешыцца, што мы ўжо ўва ўласнай хаце... (*да дзіцяці*).

канчацельны разрыў усялякіх дзяржаўных вузлоў Расеяй, вось якіе: *)

„Год назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі з сябе ярмо расейскага царызму, каторы страшэнна прыгнатаў Беларусь, без народнай згоды запаліў у нашай староңцы ваеннае пажарышча, якое зьніштожыло беларускіе гарады і мястэчкі. Цяпер мы, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, скідаем з зямлі нашых бацькоў апошкі дзяржаўнай залежнасьці, якую гвалтам накінулі расейскіе цары нашай вольнай і незалежнай староңцы. Адгэтуль Беларуская Народная Рэспубліка з'яўляецца незалежнай і вольнай. Беларускі народ сам на сваім Устаноўчым сходзе вырашыць пытаньне аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі.

„На аснове гэтага трацяць сваю моц усялякіе дзяржаўные сувязі, якіе давалі чужому ўраду магчымасьць падпісаць і ад імя Беларусі гэты Берасьцейскі трактам, які нясе Народу Беларускаму сьмерць, раздзеляючы яго зямельку на часткі. Дзеля гэтага ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі думае зьвярнуцца да заінтэрэсаваных старон, прапануючы ім перагляд тэй часткі Барасьцейскага дагавору, якая датычыцца Беларусі, і маніцца падпісаць мірны дагавор з усімі ваюючымі дзяржавамі

„У Беларускую Народную Рэспубліку павінны ўвайсьці ўсе землі, на якіх жыве ў большасьці Беларускі Народ, значыцца: Магілёўшчыны, Меншчыны, беларускіе часьці Горадзеншчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны разам з сумежнымі часткамі суседніх губэрняў, гдзе жывуць у большасьці беларусы.

„Беларуская Народная Рэспубліка падцьвярджае ўсе правы і свабоды грамадзян і народаў Беларусі, абвешчаные Устаўнай Граматай 9 сакавіка 1918 г.

„Абвешчаючы незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі, Рада яе верыць, што ўсе народы, якім дорага воля, дапамогуць Беларускаму Народу зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўные ідэалы".

Гэтае становішча выклікало абурэньне нямецкага ўраду і рэпрэсыі: канфіскавалі беларускі скарб, арыштавалі шмат сяброў беларускіх вайсковых арганізацыяў, беларускім урадні кам не давалі магчымасьці працы — наогул усялякімі способамі ставіліся перашкоды арганізацыйнай дзяржаўнай беларускай рабоце, хаця Рады Рэспублікі не чапалі, а навет у канцы окупацыі, пасьля пэрэвароту ў Нямеччыне, пачалі аддаваць у яе рукі розные галіны адміністрацыі (напр. школьную справу).

Прыход бальшавікоў, калі немцы аддалі край на разгром, прымусіў беларускі ўрад пакінуць Менск. Аднак ідэя ўласнай беларускай дзяржаўнасьці, кінутая Усебеларускім Конгрэсам, разьлілася па краю вельмі шырокай хваляй і знайшла одгук у народзе і народнай інтэлігэнцыі. Дзеля гэтага навет маскоўскіе цэнтралісты, якіе год назад штыхамі і кулямётамі разганялі Усебеларускі Конгрэс, цяпер прымушаны былі лічыцца са стаўшымся фактам, і вось 1 студня 1919 г. паяўляецца маніфэст „часовага работніцка-сялянскага савецкага ўраду Беларусі", каторы, зварачваючыся да беларускіх работніцкіх і сялянскіх мас абвесьціў:

„Ад сёньняшняга дня і вы—разам з працоўным народам Расеі, Літвы, Украіны і Латвіі — с та

*) Ня маючы у сябе цяпер арыгіналу гэтага пратэсту, тэкст яго даем не дасло ўна, але у перакладзе з польскае мовы які зьмешчаны у мэморыяле да Польскага Ураду. — Рэд.

---

Во, бачыш, які харошы ў таты гадзіньнік? Во, паслухай, як ён робіць: чык-чык-чык!

ВАСІЛЬ Ну, трэба ўжо распакаваць рэчы. Зваліў я ўсё насьпех, у вадну кучу, не было часу ўлажыць як сьлед... Усе рукапісы ў кашу перэмяшаліся (разьвязвае найвялікшы кош, выймае шмат кніжак і папераў і раскладывае на стале. Пачынае зьмяркацца).

ЯДЗЬКА На што ты забіраў гэтае сьмецьцё? гэтые паперкі?

ВАСІЛЬ (паважна, спакойна). Гэта не сьмецьцё, Ядзечка! Гэта ўсё патрэбные рэчы. Што я быў-бы варты бяз гэтага? Спалі гэтые паперкі—і ты спаліш частку мяне, частку душы маей.—Вось!

### Зьява 10.

ТЫЕ-Ж і КОСТУСЬ са СТОРАЖАМ.

Уваходзіць Костусь са Сторажам, каторы нясе на плячох куфар.

КОСТУСЬ (да Стоража). Вось настаўце тут, калі ласка. Заўтра зайдзеце, дык дастанеце за фатыгу.

ВАСІЛЬ (да Стоража). Але, але. Я ўжо казаў вашай жонцы: зайдзеце заўтра, заўтра вам будзе заплачана.

СТОРАЖ (выходзіць).

### Зьява 11.

ТЫЕ-Ж без СТОРАЖА.

КОСТУСЬ (падыходзіць да Ядзькі цалуе яе ў руку). Вітаю вас, пані, на вашай новай кватэры. Ну, як-жаж вы?

ЯДЗЬКА. Ох, яшчэ слабая, але дзякаваць Богу, што нарэшце выбралася з бальніцы, тут хутчэй папраўлюся.

КОСТУСЬ. А малы?

ЯДЗЬКА. Ен нічога, маладзец, здароў... во бачыце, які вясёлы: гвалтам хоча выцягнуць ручкі з пад пялёнак—ха-ха—хоча мабыць з вамі прывітацца (да дзіцяці). Ну, ня трэба, хавай ручкі, тут холадна, зьмерзнеш...

КОСТУСЬ (да Васіля). Ну, брат, ледзьледзь я адваеваў ад упраўляючага апошні наш клумак. Даведаўся гад, што мы з кватэры ўцякаем, прыляцеў там, як фурыя, пачаў крычаць, зрабіў страшэнную авантуру. Ну, ў канцы канцоў удалося мне яго супакоіць. Я даў расьпіску, што заўтра ўсё заплоцім.

ВАСІЛЬ (усьмяхаючыся). Усім мы паабяцалі: заўтра ды заўтра... Але скуль мы заўтра возьмем—вось цікавасьць! Я ўжо ня ведаю, скуль дастаць.

ліся вольнымі, карыстаючымі з усіх правоў сваіх гаспадарамі Вольнай Незалежнай Беларускай Саныялістычнай Савецкай Рэспублікі".

Гэны дэкрэт меў больш агітацыйнае і моральнае чымсь рэальнае значэньне, дзеля таго што ні аб якой дзяржаўнай асобнасьці Беларусі не было ніякай думкі, хаця ў справах прасьветных ніякіх перашкод беларусам не рабілі, а наадварот—некаторые прасьветные ўстановы ўспамагаліся значнымі грашавымі сумамі.

Бальшавіцкая окупацыя скончылася з прыходам польскага войска.

Слаўная Віленская адозва прадвяшчала новае жыццё. Польскае войска на сваіх штыхох прыносіла і Беларускаму народу „права высказацца аб сваёй будучыне". А ўзапраўды нясьлі страхацьцё разьдзелу Беларусі паміж Польшчай і Расеяй.

Вялікая думка Віленскае адозвы была скаверкана ўтварэньнем Цывільнага Ураду Усходніх Зямель, установы чыста польскай для краю, гдзе палякі ў меншасьці. Атрымаў верх не прынцып дэмократызму, патрэб і волі шырокіх мас, але прынцып перавагі маемасьці, пераважыла ідэолёгія вялікіх зямлеўласьнікаў.

Прызнаваные беларусам у тэорыі нацыянальные правы, у жыцьці на кожным кроку спатыкаліся з гвалтам.

Клічы аб самавызначэньні выкарыстоўваліся толькі як способ для нясумленай агітацыі процібеларускай паміж мала яшчэ ўсьвядомленых народных мас. Кінуты былі з гэтай мэтай вялізные грошы (прыпомнім сабе г. наз. „Страж Крэсовую). Гэтая агітацыя шмат аблягчала работу русыфікатарскіх элемэнтаў, якіе мелі магчымасьць казаць, што вось Польшча перашкаджае ўтварэньню Беларусі, і што з ёю вось галўным чынам трэба змагацца, апіраючыся, ведама, на Маскву. У практыцы Цыв. Ураду Усх. Зям. былі навет факты безпасрэднага ўспамаганьня гэтых элемэнтаў у іх барацьбе з беларусамі. „Крэсы Усходніе" былі падзеляны на „сфэры ўплываў". У Віленскім і Берасьцейскім вокрузе старанна ўстрымоўвалі ўсялякіе праявы нацыянальнай беларускай работы. Аб гэтым дзеяньні адміністрацыі няраз былі павядомляны Начэльнае Даводзтва і Генэральны Камісар, — аднак, нажаль, без ніякага рэзультату. Толькі ў Менскім вокрузе беларусам пакінулі сякую-такую свабоду ў іхняй нацыянальнай працы, хаця не ўспамагалі яе так як трэба. Урадовые сфэры прыгатаўлялі праэкт прылучэньня памянёных вокругоў да Польскай Рэчыпоспалітай, а для вокругу Менскага якуюсь куртатую аўтаномію.

Гэтак вось было перачыркнуто жаданьне беларускага народу незалежнага бытаваньня.

Часта рабілася гэта рукой тых, якіе яшчэ нядаўна, у часы нямецкае окупацыі, як сябры польскае фракцыі Рады Рэспублікі, падтрымоўвалі гэтую незалежнасьць, а цяпер, займаючы найвышэйшые становішчы ў Цыв. Ур. Усх. Зям., былі самымі заўзятымі яе ворагамі.

Польская окупацыя пакінула на Беларусі разачараваньне ў шчырасьці польскае палітыкі, каторая глядзела на яе толькі як на сваё „Крэсы Усходніе".

Аднак-жа, ня гледзячы на гэта, сьвядомая беларуская грамадзкая думка з верай, што прынцыпы запраўднага дэмакратызму ў канцы канцоў павінны ў Польшчы пераважыць, не перэстае шукаць для сваіх дзяржаўных страмленьняў апору ў ёй, як у адным з бліжэйшых суседзяў Беларусі,

---

КОСТУСЬ. Я маю добрае прачуцьцё...

ВАСІЛЬ, Што думаеш? Пойдзеш—там?...

КОСТУСЬ. Але.

ВАСІЛЬ. З чым-жа пойдзеш? Няўжож у цябе яшчэ ёсьць крыху марак?

КОСТУСЬ. Не. Але вось ад каго спадзяюся паратунку—ад гэтага пярсьцёнка. Гэта мой талізман. Ен ня раз ужо ратаваў мяне ў цяжкую часіну... Заўсёды як закладываў я яго ў лёмбард—гэтые грошы прыносілі мне шчасьце. Аднак не люблю я з ім раставацца... Але нічога не парадзіш... Ну, трэба сьпяшацца, каб не зачынілі лёмбард! (а п р а н а е ц ц а).

ВАСІЛЬ. Костусь! Пачакай!.. Ну, а калі будзе гэтак, як ўчора: усё да апошняга фэніга, га?.. Можа лепш устрымайся... Шкада грошай...

КОСТУСЬ. Ха-ха! Мілы мой! Бывае, што ўсё жыцьцё ёсьць толькі адна газартная ігра. І тады кідаеш va banc не якіесь колькі дзесяткоў марак, а душу сваю, бо сам чорт твой партнэр а ён любіць вялікую ігру!...

ВАСІЛЬ. Ну, зычу табе...

КОСТУСЬ. Не! толькі без гэтага! Ня трэба зычыць шчасьця, бо гэта благі знак, гэта нясе няўдачу... Бывайце! (в ы х о д з і ц ь).

## Зьява 12

ТЫЕ-Ж без КОСТУСЯ.

ВАСІЛЬ (с я д з і ц ь, к у р ы ц ь п а п і р о с у). Гм! Дзіўны чэлавек гэты Костусь! Знаемся з малку дзён, а вось іншы раз ніяк не магу разгадаць яго. Ну чаго, напрыклад, ён блытаецца тут у Вільні, замест сядзець у сваім фальварку. Ну, праўда, там немцы ўсё ўзялі ў свае рукі і рады ніякае з імі не дасі. Ну, усё-ж-ткі на вёсцы лягчэй, чымся тут бяз службы, бяз работы, праводзячы ночы толькі ў якойсьці шужерні... Сядзеў сабе ў сябе на вёсцы, гаспадарыў, добра было, а вось з таго чаму, як прыехаў на наш шлюб, заседзіўся ў Вільні і жыве тут дагэтуль... А скрытны ён гад,—я чую ёсьць у яго ў душы нешта гэтакае, чаго ён ня хоча казаць... Хаця часта прыходзіцца мне з ім сварыцца, люблю я яго... (р а с к л а д в а е с в а е п а п е р ы). Цёмна ужо, трэба запаліць сьвечку (з а п а л і в а е). Сягоньня ёсьць настрой, трэба трохі папісаць... Ядзенька! ты заснула?

ЯДЗЬКА. Не, я слухаю цябе...

(Працяг будзе).

зьвязаным з ёю тысячамі гістарычных, культурных і эканамічных ніцяў.

Для Польскага народу гэтак сама павінна мець цану прыязьнь 12-ці міліённага Беларускага народу.

Мы не перастаем верыць, што Польскі народ раней ці пазьней зразумее і паправіць абмылкі палітыкі свайго Ураду на Беларусі, падаўшы Беларускаму народу брацкую далонь помачы ў яго страмленьнях да ўласнай дзяржаўнасьці.

Ніколі не бывае позна папраўляць старые абмылкі,—яснай, шчырай ды сумленай пастаноўкай справы будаваць моцные і трывалые асновы для прыязных і блізкіх суседзкіх адносін,—бо гісторыя не сягоньня канчаецца.

Дык вось у імя гэтай будучыні, і каб паправіць старые абмылкі і завязаць з Беларускім народом вузлы прыязьні, Найвышэйшая Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, зварочываецца да Ураду Найясьнейшай Рэчыпосполітай Польскай з просьбай зрабіць вось якіе пастановы:

1. Прызнаць незалежнасьць Беларусі ў яе этнографічных граніцах і ў цеснай экономічнай сувязі з суседнімі дзяржавамі, якіе ўтварыліся з б. Расейскае імпэрыі.

2. Форму дзяржаўнага ладу, а так-сама дзяржаўную і палітычную сувязь з суседзямі разрашыць Беларускі Устаноўчы Сход, які будзе скліка괂 тымчасовым урадам Беларускае Народнае Рэспублікі.

3. Уселякіе окупацыйные войскі павінны быць вывєдзяны з беларускай тэрыторыі, а ў пераходным часе протэкторат над Беларусьсю павінна ўзяць з рукі Лігі Народаў адна з дзяржаў, незаінтэрасаваных у Беларусі тэрыторыяльна.

Апрача гэтых аснаўных пунктаў Найвышэйшая Рада Б. Н. Р. просіць прыняць свайго прадстаўніка ў склад **польскай дэлегацыі на мірные перагаворы** з Савецкай Расеяй."

Падпісалі прадстаўнікі Навышэйшае Рады:
Іваноўскі, Тарэшчанка, Дубейкоўскі.

Вось чаго дабівалася Найвышэйшая Рада ад польскага ураду. У дэмакратычных польскіх кругох жаданьне беларускіх прадстаўнікоў спаткалося з вельмі прыхільнымі адносінамі і ў значнай часьці міравой польскай дэлегацыі справа незалежнасьці Беларусі знаходзіла падтрыманьне. Толькі, дзякуючы гэтай прыхільнай для нас частцы, польская дэлегацыя згодзілася на пастаноўку пытаньня аб незалежнасьці Беларусі. Але эндэцкая палітыка з панам Грабскім на чале ўзяла верх. Незалежнасьць засталася на паперы. Беларусь падзялілі паводле старых чорнасоценных пляноў і здрадна пакінулі Менск у руках бальшавікоў.

# Прыхільные для нас галасы.

„Gazeta Krajowa", кажучы аб польска-бальшавіцкай граніцы, праведзенай мірнай рыжскай умовай між інш. піша:

„...Ідэю вольнай Украіны, вольнай Беларусі дазволена зааэнэктаваць бальшавіком, якіе, уцягнуўшы ў рамы Совдэпіі вялікшую частку зямель, на каторых жывуць гэтые народы, патрэбавалі ад Польшчы граніцы, разарваўшай жывые арганізмы абодвых гэтых народаў.

„Сталося. Пакуль-што паправіць гэтую абмылку ня ўдасцца. **Але няўжож Польшча не павінна сёньня паважна задумацца над вынікамі з гэтага факту і наперад прадбачыць яго ў сваёй палітыцы.**

„Няўжож ня трэба думаць, што зчасам перш-на-перш Украіна, а пасьля Беларусь выразна будуць старацца, каб утварыць два цэлые арганізмы.

„Ні страўсавая палітыка, ні шовіністычные пратэсты эндэкаў, ні вучоные вывады Равітаў-Гавронскіх ня зьменяць праўды—не зьмятуць беларусаў з зямлі. Дык-жа навет спісы б. Ураду Усх. Зям. выказалі ўжо вялікае нацыянальнае ўсьведамленьне навет і ў заходняй, каталіцкай Беларусі. Выявілося, што ў некаторых паветах (напр. Навагрудзкім) працэнт усьвядомленых беларусаў дайшоў да вялізнай цыфры (80 прац.). Толькі ўпартая сьляпота ня бачыць, што большасьць насяленьня гэт. наз. „крэсаў усходніх"—гэта беларусы.

„Ці сёньняшняя адміністрацыя робіць штоколечы, каб гэты народ бачыў у Рэчыпаспалітай сваю апякунку? Няма дня каб мы ня чулі скаргаў, жальбы на злачынствы; няма тыдня, каб не здарыліся бязсэнсоўные рэпрэсыі — зачыняюць часопісі, таварыствы, расьследуюць або зусім не прызнаюць беларускага школьнага пытаньня. А гэтые способы часта скіраваны проціў людзей, якіе нядаўна яшчэ горача сымпатызавалі Польшчы, якіе ішлі да яе, пяраз жыцьцём сваім рызыкуючы ў змаганьні з бальшавікамі. Гэтакай палітыкай мы даем савецкай і несавецкай Расеі козыр у рукі, з якога маскоўская дыплямацыя не забудзецца скарыстацца.

„Праўда, ня верыцца, каб бальшавікі прызналі дзяржаўную незалежнасьць Украіны, а тым больш Беларусі. Але сама фікцыя, сама назова незалежнай Беларусі ў зьвязку з тым, што за межамі Польшчы застаецца вялікшая частка гэтага народу, а далей—тое, што бальшавізм карыстаецца рознымі дэмагогічнымі клічамі і што ўзапраўды ня робіць ніякіх нацыянальных рэпрэсый, усё гэта ўтварае для Польшчы сур'ёзную небасьпеку шырэньня ў яе межах нездаволеньня"...

---

„Robotnik" (№ 74,) кажучы аб гэтай самай справе піша:

„З усіх народаў, якіе пасьля расейскай рэвалюцыі сарваліся да незалежнага жыцьця, Беларусь атрымала наймейш. Праўда, што і Украіна гэтак сама разьдзеляна на дзьве часткі ды яе незалежнасьць ёсьць мана, але з Украінай усё-ж-такі лічыліся гэтульки, што яе прадстаўнікоў—хаця-б савецкіх—дапусьцілі на рыжскіе перагаворы, што яе імя памешчано ў дагаворы побач з імем Расеі.

„Датычна Беларусі ня зроблена і гэтай фармальнасьці. Проста Іоффэ „упаўнамочыў" сябе падпісаць дагавор ад імя „ураду беларускае савецкае рэспублікі" і кожны беларус у подпісах п. п. Іоффэ, Ганэцкага і інш. павінен будзе бачыць незалежнасьць свае старонкі..."

Далей піша:

„Калі Польшча, якая мае ў сваіх межах меншую частку украінцаў і беларусаў, чымсь Расея, хоча весьці палітыку на далейшую мэту, дык павінна ў адносінах да абодвых гэтых народаў весьці палітыку шчыра дэмакратычную. Толькі гэткім спосабам Расея ня будзе мець магчымасьці змагацца з Польшчай і будзе забасьпечано моцнае і карыснае для Польшчы разьвязаньне нацыянальнай справы на ўсходзе."

# Армія і народ.

Армія ўсякае дзяржавы ёсьць рэальнай сілай ураду гэтае дзяржавы, якая патрэбна дзеля падтрыманьня парадку ўнутры дзяржавы і абароны яго ўнешніх спраў.

Здавалося-б, што гэтая формула зусім выразна адзначае мэты і заданьні арміі ў кожнай дзяржаве, але падзеі апошніх 6-ёх гадоў даказалі нешта інакшае.

Армія—гэта ёсьць частка таго народу, з якога яна складаецца.

Армія—гэта ёсьць душа, сэрца і вочы народу.

Армія, як неразлучная частка народу, адчувае і перажывае духоўные і фізычные мукі народу.

Армія глядзіць на ўсе падзеі, якіе здараюцца ў яе староньцы, вачыма свайго народу.

Армія, як-бы яна не была вышкалена з ваеннага боку і якую-бы яна ня мела паміж сабой злучнасьць, мае сваю афіцыяльную і неафіцыяльную старану.

Неафіцыяльная старана арміі г. зн. нацыянальнае пачуцьцё, духоўные і фізычные перажываньні народу, хаця і былі ведамы вышэйшым органам дзяржэўнай улады, але з пэўнай мэтай усё гэта прыкрывалося рознымі оптымістычнымі пацехамі.

Але ўсе гэтые штучные спосабы не апраўдаліся і прыйшоў мамэнт разрыву рамак народнае цярплівасьці, выкагваючы неофіцыяльную старану арміі.

Гэтак напр. вялікая сусьветная вайна 1914—1917 г. адкрыла запраўдны абраз адносіны арміі да народу і народу да ўраду.

Ужо ў 1915 г. паміж народамі бязмала ўсіх ваюючых дзяржаў пранёсься шорхат нездаволеньня на грунце эконамічных умоваў жыцьця.

Гэтае нездаволеньне мэханічна адбілося і на арміях.

У 1917 г. вуліцы арыстократычных вуліц Пецярбурга запоўнілі работніцкіе масы, жадаючы хлеба.

Народнае нездаволеньне і актыўнае выступленьне народу выкарысталі палітычные партыі і патрэбавалі ад існаваўшага ўраду рээрганізацыі сыстэмы кіраваньня дзяржавай. Усе здарэньні ў краі зараз-жа адбіліся на настрою арміі і армія пайшла з народам.

Але апрача эканамічных дэфэктаў краю, народ пярпеў духоўна.

Супольнэе духоўнае і фізычнае змучэньне асабліва адчулося ў арміі і гэты псыхолёгічны момэнт выкарысталі бальшавікі, абвесьціўшы кліч „далоў вайну“...

Офіцыяльная старана арміі перастала існаваць.

Армія спешалася вярнуцца дамоў.

Новая дзяржаўная ўлада, бальшавіцкая, патрэбуе рэальнай сілы; пачынаецца фармаваньне чырвонай арміі з новымі пекнымі лёзунгамі, якіе маюць бараніць быццам запраўдные патрэбы народу.

Арганізавалася чырвоная армія, г. зн. рэальная сіла новага ўраду. Але новы ўрад з яго новай сыстэмай праўленьня нічога не дае народу. Народ яшчэ больш стогне пад ярмом пекных лёзунгаў.

Армія перажывае, чуе і бачыць мукі народу. 4-га сакавіка 1921 г. вуліцы Пецярбурга напаўняюцца народнымі масамі і чуецца ізноў народны голас: „Дайце хлеба!“

Чырвоны флот, той флот, які служыў верай і праўдай сваім урадам 1914-1917-1918 г., прылучаецца да народу і гэтым абвешчае народу сваю солідарнасьць з ім.

За флотам ідзе чырвоная армія, пераходзячы на старану народу.

Рэальная сіла ўраду аказалася рэальнай сілай народу.

Неофіцыяльная старана арміі ў кожным гаспадарстве была, ёсьць і будзе, і боеспособнасьць арміі знаходзіцца ў вялікай залежнасьці ад стану тэй неофіцыяльнай стараны.

Г.

---

# Беларуская хроніка.

## Весткі з Менску.

Ужо трэці раз паяўляецца ў газэтах сэнсацыйная вестка аб тым, што ў Меншчыне разгарэлося беларускае паўстаньне, што паўстанцы занялі Менск і абвесьцілі Незалежную Беларускую Рэспубліку.

Гэтые весткі зусім ня згодны з праўдай. Асобы, якіе нядаўна прыехалі з савецкай Беларусі, кажуць, што ніякага паўстаньня ў Меншчыне не было. У горадзе супакойна, калі можна назваць супакоем жыцьцё пад тэррорам Чрэзвычайкі, якая штодня растрэлівае ў Камароўскім лесе свае ахвяры. Дазволена адчыніць крамы і распачаць гандаль. Але апрача хлеба, квасу і „сітро“ ў гэтых крамах рэдка можна ўбачыць іншые спажыўные прадукты.

„Віленскае Слова“ друкуе іншую ня меньш сэнсацыйную вестку аб тым, што бальшавікі, каб здабыць для сябе сымпаты беларусаў, якіе апынуліся за межай, праведзенай Рыжскім дагаворам, выдалі адозву да беларускіх дзеячоў, уцёкшых перад бальшавіцкай окупацыяй. У гэтай адозве быццам гаворыцца, што савецкі ўрад забыўся ўжо аб старых „грахох“ беларусаў, дае ім поўную амністыю і запрашае для культурнай работы ў Менск.

Ня верыцца!

## Беларускі тэатр.

Пачаўся арганізавацца беларускі драматычны гурток, які складаецца з профэсыянальных тэатральных сіл і з аматараў, якіе прайшлі праз колькі гадоў аматарскай працы на сцэне. Гэты гурток мяніцца быць асновай будучага запраўднага беларускага тэатру з гэтага боку лініі разьдзяліўшай Беларусь.

У Менску ўжо трэці год працуе беларускі тэатр, зложаны з добра ўжо вышкаленых на беларускай сцэне артыстаў, і здабыў ужо вялікіе сымпатыі ў Менскай публікі і на правінцыі.

Можа, работа нашых маладых віленскіх сіл дасьць у хуткім часе гэтакі самы рэзультат, і віленскі беларускі тэатр будзе гэтакай культурнай установай, якая, здабываючы сымпатыі тутэйшае публікі, будзе кідаць прамені беларускай культуры і на акалічные мястэчкі, наладжваючы час-ад-часу tournée па правінцыі.

Новы мастацкі гурток распачаў ужо рэпэтыцыі „Птушкі шчасьця“ і „Ценяў“ (п'есы Аляхновіча).

## Сьвяткаваньне Незалежнасьці Беларусі.

У пятніцу 25 сакавіка ў старой беларускай царкве Сьвята-Троіцкага манастыра адбылося урачыстае архірэйскае набажэнства. Царква была поўная народу: былі тут і прадстаўнікі беларускае інтэлігенцыі, і вучашчаяся моладзь беларускіх школ, і людзі ў шэрых сьвітках і мяшчанскіх ды работніцкіх вопратках, і ў салдацкіх шынэлях.

У вечары ў салі ў Базыльянскіх мурох адбылося ўрачыстае паседжаньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту, на катерым былі прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацыяў і шмат пачэсных гасьцей, Паседжаньне распачаў сваёй прамовай А. Луцкевіч. Пасьля яго прамаўлялі: кс. А. Станкевіч, Чарапук, А. Смоліч ды інш.

У аўторак 29 сакавіка ў Боніфратэрскім касьцёле адбылася імша, на якой сьвятые песьні пяяліся пабеларуску. Пасьля кс. Станкевіч сказаў з амбоны казаньне. Трэба адзначыць, што гэта было гістарычнае першае пасьля доўгуй маўчанкі беларускае казаньне ў Вільні.

Касьцёл быў поўны народу.

Пасьля набажэнства ў салі Бел. Драматычнага гуртка сабраліся дзеці з беларускіх прытулкаў і пачатковых школ. Ім было растлумачана значэньне Сьвята Незалежнасьці, а пасьля дзеці пялі беларускіе песьні і дэклямавалі.

Увечары ў гэтай-жа салі быў беларускі спэктакль. Вучні старшых клясаў беларускае гімназіі разыгралі пьесу Аляхновіча „Бутрым Няміра". Перад спэктаклям віталі беларусаў прамовамі прадстаўнікі польскага, літоўскага і жыдоўскага грамадзянства.

---

Цікаўна адзначыць, што набажэнства ў касьцёле страшэнна абурыло эндэцкую газэту „Rzeczpospolita", якая ў стацьці п. з. „Pod adresem władz kościelnych" зварачваецца да касьцёльнай улады, пытаючы, ці яна ведае аб гэтым факце.

У № 72 гэтай газэты зьявілося пісьмо ў рэдакцыю рэктора Боніфратэрскага касьцёла кс. В. Заёнчкоўскага, у якім між інш. гаворыцца:

„... Што датычыцца набажэнства са сьпевамі пабеларуску ў мінулы аўторак, дык сталося гэта проціў маей волі. Адправіў набажэнства кс. А. Станкевіч, які атрымаў мой дазвол адпраўляць імшу, а аб сьпевах і літаніях беларускіх не было гутаркі. Я ня мог думаць, каб гэтае набажэнства мелося быць беларускім".

Рэдакцыя ад сябе канчае:

„Друкуючы гэтае выясьненьне, дзівуемся, як гэта кс. Заёнчкоўскі не прыпамінае сабе казаньне, якое выклікало агульнае абурэньне сабраўшыхся там". (чытай: абурэньне газэты „Rzeczypospolita").

Гэта ёсьць найляпейшая ілюстрацыя нацыянальных адносін, якіе пануюць у нашым краі.





Друкарня „ДРУК", Вострабрамская, 5. — Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШК АЛЯХНОВІЧ.